



# рэгіянальная газета

16 жніўня 2013 года
№ 33 (955)

Тэлетыдзень

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




Сабраць старшакласніцу на 1,5 мільёна даражэй, чым першакласніцу

3-я старонка



Іван Драўніцкі: "Родная мова як паветра, як зямля, як маці"

20-21-я старонкі


• Абліўся бензінам і падпаліў сябе. /4-я старонка.
• "Не бойся лячыць", – галоўнае для доктара. /5-я старонка.
• Мастак і дэсантнік Юры Герасімовіч з Вільні зладзіў выставу ў Вілейцы. /6-я старонка.
• Выйграй білет на хатні матч "Смаргоні"! /22-я старонка.


## навіны рэгіёна

### Ашмянец праехаў без правоў на машыне брата пяць кіламетраў – і загінуў

**АШМЯНЫ.** Каля 16 гадзін непадалёк ад вёскі Драглеўцы перакулілася "Аўдзі-80". Пазней ДАІ высветліла, што за рулём быў мужчына, які ніколі не меў пасведчання кіроўцы. Паводле афіцыйнага сайта дзяржаўтаінспекцыі Гродзенскай вобласці, у пятніцу на гэтай машыне да яго прыехаў у госці брат з Магілёўскай вобласці. На выхадных адпачывалі. Пасля абеду ў панядзелак, 12 жніўня, гаспадар машыны вырашыў адпачыць. А брат скарыстаўся момантам і паехаў на машыне. Ад'ехаўшы каля пяці кіламетраў, на закругленні дарогі ўправа не даў рады кіраванню. Ён з'ехаў у левы кювет, ударыўся ў дрэвы і перакуліўся. Ад атрыманых траўм у выніку аварыі 45-гадовы мужчына загінуў на месцы здарэння. Рамянём бяспекі кіроўца прышпілены не быў.

### Фолк-свята ў гонар Ігната Буйніцкага адбудзецца на хутары Шаблі

**ВАЛОЖЫН**. Танцавальная вечарына ў гонар заснавальніка першага прафесійнага нацыянальнага беларускага тэатра Ігната Буйніцкага пройдзе на хутары Шаблі 17 жніўня. Наведнікаў чакаюць майстар-класы па беларускіх народных танцах, песні, гульні, вершы. Арганізатары вечарыны рыхтуюць сапраўднае свята для аматараў беларускай народнай культуры. Мерапрыемства пройдзе на хутары Шаблі ў вёсцы Малое Запруддзе Валожынскага раёна. Пачатак у 15.00.

**Аддзел інфармацыі.**



# Брусніцы прадаюць нягледзячы на забарону



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

У сераду карэспандэнты "РГ" налічылі на маладзечанскім рынку больш за дзесяць гандляроў, якія прадавалі брусніцы.

**МАЛАДЗЕЧНА. На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства і каля яго брусніцы пачалі прадаваць у аўторак, 13 жніўня. На чатыры дні раней, чым дазволена збіраць гэтыя ягады.**

У аўторак карэспандэнты "РГ" заўважылі сем гандляроў брусніцамі, у сераду – больш за дзесяць.

Відаць, што не ва ўсіх ягады аднолькавыя. У кагосьці амаль усе чырвоныя і ёсць нават барвовыя, у іншых шмат ружовых, а ў некаторых нямала зусім белых брусніц.

Адна гандлярка за пяцілітровую просіць 80 тысяч рублёў:

— Тут ягадка ў ягадку. Я ўчора з лесу ў Татаршчызне сабрала, перабрала. Няспелыя, бо ў некаторых гандляроў тыднямі ляжаць і паспяваюць. Тут белых няма: якія зверху ягады, такія і знізу.

Ягады з вёскі Самалі прадаюць па 90 тысяч за пяць літраў, 70 – за тры. Брусніцы з Чарчонава Вілейскага раёна прадаюць па 65 тысяч рублёў за тры літры, а з-пад Мядзела – па 60 тысяч.

Літровыя слоікі з-пад Сасновага Бору прапануюць за 18 тысяч рублёў.

### На Гродзеншчыне можна збіраць раней

Дакладныя тэрміны збору журавін і брусніц штогод устанаўліваюць абласныя выканаўчыя камітэты.

Паводле інфармацыі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, сёлета збор брусніц у Гродзенскай вобласці пачаўся 15 жніўня, а ў Мінскай – 17 жніўня.

Журавіны у Гродзенскай вобласці можна пачынаць збіраць 10 верасня, у Мінскай – 21 верасня.

### На Ашмяншчыне брусніц не назбіраеш

Не ўсе мясціны нашага рэгіёна аднолькава ўраджайныя на брусніцы. У Ашмянскім лясніцтве расказалі, што жыхарам даводзіцца ехаць па ягаду ў суседнія раёны.

– У нас брусніц вельмі мала, – кажа **Людміла Буйноўская**, бухгалтар Ашмянскага лясніцтва. – Крыху назбіраць можна, але каб на продаж – гэтага няма. Нават журавіны на Ашмяншчыне збіраюць толькі ў адной лясной гаспадарцы. А па чарніцы мы самі ездзім у суседні Смаргонскі раён. Затое на маліны да нас – калі ласка, запрашаем! Яе многа расце.

### На Смаргоншчыне аштрафавалі чатырох парушальнікаў

Кожны год знаходзяцца ахвотнікі збіраць ягады раней вызначанага тэрміна. Парушальнікаў чакае штраф да 20 базавых велічынь (два мільёны рублёў).

Такі самы штраф атрымаюць і тыя, хто будзе збіраць ягады пры дапамозе механічных прыладаў. Імі забаронена карыстацца цягам усяго сезона.

– Сёлета аштрафавалі чатырых чалавек – некаторых за ранні збор, іншых за прылады, – кажа **Юры Мускі**, вядучы інжынер па ахове і абароне лесу Смаргонскага доследнага лясгасу. – Вось ад 15 жніўня на Гродзеншчыне – усе ў лес! Збіраць рукамі дазволена паўсюль, дзе бачыце ягады, акрамя спецыяльна пазначаных тэрыторый – напрыклад, пашкоджаных радыяцыяй.

Вобласці Беларусі знаходзяцца ў розных кліматычных падзонах, ягады ў іх спеюць з рознай хуткасцю. Дзень, з якога можна збіраць брусніцы, можа пераносіцца на 5-10 дзён у залежнасці ад раёна.

– Лясгас рэгулярна праводзіць рэйды па мясцовых рынках, каб сачыць, ці не прадаюць ягады раней вызначанага тэрміну, – дадае Юры Мускі. – Пакуль такіх выпадкаў у нас не было. Выяўленнем парушальнікаў займаюцца таксама мясцовыя інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА.**

ПЫТАЙЦЕСЯ-АДКАЖАМ

# Каго клікаць, калі сабаку выгульваюць няправільна?

**МАЛАДЗЕЧНА. У каментарыях да артыкула "Пляцовак для сабак няма, а правілы ёсць", размешчанай на сайце "Рэгіянальнай газеты" з'явілася пытанне:**

– Цікава. Калі я ўбачу, што вялікага сабаку выгульваюць без намордніка, што мне рабіць? У міліцыю тэлефанаваць? А ці не пасмяюцца там з мяне?

Намеснік начальніка маладзечанскага райаддзела міліцыі **Аляксандр Кісель** расказаў, што ў Кодэксе Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных парушэннях ёсць артыкул, які рэгулюе правілы трымання дамашніх і (ці) драпежных жывёл. Там прапісана, што бывае ў выпадку іх парушэння.

Аляксандр Кісель падкрэсліў, што гэтымі справамі займаецца домаўпраўленне, якое вядзе ўлік сабак, будуе пляцоўкі для выгулу, а не міліцыя.

Дыспетчар домаўпраўлення №6 **Ларыса Ярошкіна** сказала, калі ёсць інфармацыя, у якім доме ці кватэры жыве ўласнік сабакі, то камунальнікі правяраюць, зарэгістраваная жывёліна ці не. Калі так, то тлумачаць гаспадарам правілы выгулу і трымання сабак.

Калі сабака не зарэгістраваны, то папярэджваюць, што яго трэба рэгістраваць, праводзяць тлумачэнне. Калі правілы не выконваюць, то гэта разглядаецца як адміністрацыйнае правапарушэнне. За гэта даюць штраф. Даюць яго і за тое, што сабака не зарэгістраваны.

Нагадаем усім гаспадарам сабак артыкул 15.47 Закона аб адміністрацыйных правапарушэннях:



**Вялікіх сабак можна выводзіць на вуліцу толькі ў намордніках.**

– Калі парушаюцца правілы трымання сабак, кошак і (ці) драпежных жывёл, гаспадар папярэджваецца ці атрымлівае штраф у памеры ад адной да 15 базавых велічынь (ад 100 тысяч да 15 мільёнаў рублёў).

– Калі парушэнне нанесла шкоду здароўю людзей ці маёмасці, за гэта даюць штраф у памеры 10-30 базавых велічынь (ад аднаго да трох мільёнаў рублёў) ці адміністрацыйны арышт.

**Галіна СІНІЦА.**

СВЯТЫ

## Віляйчане вызначыліся са святам: у Віллянін дзень адбудзецца конкурс "Ад пакалення да пакалення"

**ВІЛЕЙКА. У мінулым нумары "РГ" паведамляла, што віляйчанам прапануецца выбраць, якое свята праводзіць у Віллянін дзень. У выніку інтэрнэт-галасавання перавага аддадзеная сямейнаму святу.**

– Гэта будзе конкурс сярод бабуль, дзядуль і унукаў "Ад пакалення да пакалення", – паведаміла намеснік дырэктара Вілейскага Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Будзе ён складацца з трох тураў: "Візітоўка", "Творчы конкурс" і кулінарны конкурс "Бабуліны бліны". Бліны таксама трэба будзе прадставіць творча і арыгінальна.

Цяпер шукаюць удзельнікаў конкурсу – будзе пяць, а можа і больш каманд.

Улічаная і самая цікавая прапанова, якая паступіла ад віляйчан: увасобіць у свяце паданне аб стварэнні Вілейкі. Яно будзе прадстаўлена падчас адкрыцця.

У свяце чакаецца ўдзел рыцарскага клуба "Паходня". Будуць працаваць гульнявыя пляцоўкі для дзяцей. Адна з найцікавейшых – "Пясочны горад".

Свята пачнецца ў 17 гадзін 30 жніўня на Віллянінным хутары.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае самыя шчырыя спачуванні першаму міністру замежных спраў Рэспублікі Беларусь, былому паслу Беларусі ў Японіі **Пятру Кузьмічу Краўчанку** і яго сям'і з прычыны смерці маці Галіны Сяргееўны. У гэтую цяжкую хвіліну мы разам з Вамі.

КАДРЫ

## У аддзелах адукацыі новыя начальнікі

**ВІЛЕЙКА. Ад 1 жніўня на чале аддзела адукацыі, спорту і турызму стаў віляйчанін Аляксандр Пуцейка.**

Ён вучыўся ў Мардасоўскай базавай школе. 10 і 11 класы заканчваў у Хаценчыцкай школе. Меў здольнасці да філалагічных навук, прымаў удзел у алімпіядах па мовах. Рыхтаваў яго выкладчык педагагічнага каледжа **Кім Скурач**.

Яго з'яўленне ў лёсе Аляксандра Пуцейкі паўплывала на выбар прафесіі. Спачатку ён марыў стаць журналістам. Але выкладчык упэўніў у тым, што прафесія філолага нашмат лепшая.

У асяроддзі філолагаў бытуе выслоўе, што кожны філолаг можа стаць журналістам, але не кожны журналіст можа стаць філолагам. Таму паступіў на філалагічны факультэт педагагічнага інстытута.

Працаваў у Вілейскім прафесійна-тэхнічным ліцэі сацыяльным педагогам, затым выкладчыкам рускай мовы і літаратуры.

Праз дзевяць год перайшоў у школу №3 з экалагічным ухілам. Працаваў педагогам-псіхолагам, сацыяльным педагогам, педагогам-арганізатарам, выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры.

Ад 22 сакавіка 2011 года атрымаў пасаду дырэктара Асіпавіцкага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячага садусярэдняй школы.

Ад жніўня гэтага года ўзначаліў аддзел адукацыі, спорту і турызму.

**АСТРАВЕЦ. Два тыдні таму ў аддзел адукацыі, спорту і турызму райвыканкама прыйшла новая начальніца – Наталля Станкевіч.**

Нарадзілася яна ў Астраўцы. У школьныя гады палюбіла біялогію і хімію, таму абрала спецыяльнасць настаўніка. Паступіла ў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы.

Адразу працавала ў школе педагогам-арганізатарам, потым настаўнікам біялогіі і хіміі, таксама намеснікам дырэктара. Месцамі яе працы былі школа №2 і гімназія №1.

Многія маладыя настаўнікі сцвярджаюць, што аўтарытэт настаўніка ў іх вачах зніжаецца. Наталля Станкевіч падкрэслівае:

– Гэта няпраўда, з дзецьмі цікава працаваць. Дзеці адчуваюць, як да іх адносяцца, так яны ставяцца і да вас.

У апошні час Наталля Станкевіч з'яўлялася галоўным спецыялістам раённага аддзела адукацыі. Таму ў новы калектыў ёй не прыйшлося ўліваццa.

**Галіна СІНІЦА.**

СПАЖЫВЕЦ

# Сабраць старшакласніцу на 1,5 мільёна даражэй, чым першакласніцу

**МАЛАДЗЕЧНА. Напрыканцы лета ў бацькоў пачынаецца сезон не толькі школьных пакупак, але і галаўнога болю.**

Няўжо, каб адправіць дзіця "грызці граніт навукі", трэба аддаць больш, чым зарабляеш?

– Сёлета я ездзіла ў Гродна, і там купляла ўсё самае неабходнае для сваіх дзяцей, – падзялілася досведам маці двух школьнікаў **Наталля Гарошка**. – Мне здаецца, што рэчы там таннейшыя. Малодшы сын пойдзе ў шосты клас гімназіі-каледжа мастацтваў. Для яго трэба набываць дадатковую форму для заняткаў харэаграфіяй. І белыя шкарпэткі, і белую маечку, і адпаведны абутак. Толькі на канцылярскія тавары для дваіх дзяцей за адзін раз патраціла 400 тысяч рублёў. І гэта не ўлічваючы тое, што я раней яшчэ патроху ўсяго купляла. Школьную форму для сваёй дачкі, якая вучыцца ў дзявятым класе школы №12, збіраем разам з ёй. Асобна набываем штаны, спадніцы і кашулі. Сабраць дзяцей ў школу сапраўды складана, толькі на адзенне сёлета патраціла каля чатырох мільёнаў рублёў.

## Выбірам школьную форму

Па-першае, трэба набыць школьную форму. Сёння выбар формы досыць вялікі.

Для дзяўчынак прапануюць розныя віды адзення: спадніцы, сарафаны, жакеты, блузкі, штаны.

Для хлопчыкаў вытворцы звычайна выпускаюць касцюмы-тройкі: камізэлька, кашуля і пінжак. Вытрымліваюцца пераважна традыцыйныя колеры формы: сіні, зялёны, бардовы, шэры і чорны.

Кошт школьнага касцюма для дзяўчынак пачатковых класаў прыкладна 900-1150 тысяч, для хлопчыкаў – ад 950 тысяч рублёў.

Што тычыцца старэйшых вучняў, то на іх адзенне трэба выдаткаваць больш, чым на першакласнікаў. І спадніцы, і штаны, і абутак амаль у два разы даражэй.

## Купляем абутак

У крамах дзіцячы абутак каштуе ад 300 тысяч да 800 тысяч рублёў. Абутак для малодшых школьнікаў можа абысціся крыху танней.

Можна купіць і танней чым трыста тысяч рублёў, але са скуразамяняльніка. На восень такі варыянт не самы практычны.

## Спартыўная форма

Дзіцяці для ўрокаў фізкультуры спатрэбіцца спартыўная форма і абутак – красоўкі ці кеды.

За пару добрага абутку для фізкультуры давядзецца аддаць прыкладна 300 тысяч рублёў. А за спартыўны касцюм – ад 300 да 500 тысяч рублёў.

## Выбіраем заплечнік

Асартымент і кошты заплечнікаў, як і на ўсе школьныя тавары, для хлопчыкаў і дзяўчынак вельмі разнастайныя.

На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства заплечнік для пачатковых класаў каштуе ад 180 да 200 тысяч рублёў, а для старэйшых вучняў – ад 380 тысяч і вышэй.




Калаж Настассі РОЎДЫ.

Сабраць дзіця ў школу – удар па сямейным бюджэце.

Напаўняем сумку канцылярскімі таварамі.

Каб сшыткі не былі раскіданыя па заплечніку, варта набыць папку. Ёсць аднатонныя, з малюнкамі з вядомых мульцікаў, з шчыльнага кардону і з пластыку. Кошт вагаецца ў межах 30-50 тысяч рублёў.

Неад'емнай часткай школьных прыналежнасцяў, без чаго нават могуць не пусціць на ўрок, з'яўляецца дзённік. Дзённікі бываюць у цвёрдых і мяккіх вокладках. Кошт – ад шасці да 20 тысяч рублёў.

У экіпіроўцы школьніка важную ролю адыгрывае пенал. "Ручкасховішчы" бываюць мяккія і цвёрдыя, аднатонныя і каляровыя, пластыкавыя і металічныя, з разнастайнымі кішэнькамі і простыя.

Самы звычайны пенал можна купіць за 12 тысяч рублёў, больш прывабныя каштуюць каля 90 тысяч. Купіўшы такі, не трэба перабіраць ручкі, алоўкі, фламастэры і тачылкі, каб знайсці патрэбную рэч.

Неабходна памятаць і пра сшыткі і вокладкі для іх. Калі ў пачатковай школе сшыткаў трэба няшмат, то старшакласнікам давядзецца спісаць не адзін. Старэйшым вучням прыйдзецца набываць сшыткі на 48 аркушаў і больш, бо яны зручней для многіх прадметаў.

Цяпер адзін паўагульны сшытак каштуе ў межах шасці тысяч рублёў. Толькі за 12 асобнікаў давядзецца аддаць каля 70 тысяч рублёў.

Для вучняў пачатковых класаў дадатковыя выдаткі: неабходна набыць каляровую паперу, пласцілін, альбом для малявання, касу літар і складоў.

Таксама для ўвасаблення творчых фантазій дзіцяці трэба набыць фарбы (гуаш або акварэль), у якую могуць ўваходзіць ад шасці да 12 і больш баначак.

Сабраць дзіця ў школу для многіх бацькоў – даволі цяжкая задача. Нават калі неабходныя рэчы будуць даволі танныя, па сярэдніх коштах, выдаткі будуць адчувальныя для бюджэту многіх беларускіх сем'яў.

Сабраць дзіця ў пачатковую школу ў сярэднім каштуе каля двух мільёнаў рублёў, а ў старэйшыя класы – каля трох мільёнаў. Гэта сярэдняя сума, якая залежыць ад таго, дзе купляць рэчы – на рынку ці ў краме.



Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

### Табліца коштаў

| Пачатковыя класы/старэйшыя класы | | | |
|---|---|---|---|
| **Першакласніца/ Старшакласніца** | **Кошт** | **Першакласнік/ Старшакласнік** | **Кошт** |
| Штаны | Ад 180 да 280 тысяч рублёў | Касцюм-тройка (Кашуля, камізэлька, пінжак) | Ад 600 тысяч да 1200 рублёў |
| Сарафан | 200-350 тысяч рублёў | Скураны абутак | 450-650 тысяч рублёў |
| Спадніца | Ад 150 да 270 тысяч рублёў | Спартыўны касцюм і абутак | Ад 350 да 600 тысяч рублёў |
| Блузка | 170-350 тысяч рублёў | Заплечнік | 180-380 тысяч рублёў |
| Жакет | 150-250 тысяч рублёў | Канцылярскія тавары | 130-230 тысяч рублёў |
| Скураны абутак | Ад 350 тысяч да 800 тысяч рублёў | | |
| Спартыўны касцюм і абутак | 350-550 тысяч рублёў | | |
| Заплечнік | 200-420 тысяч рублёў | | |
| Канцылярскія тавары | 130-230 тысяч рублёў | | |

| Курсы валют НБ РБ | 8.08 | 15.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 900,00 | **8 920,00** |
| Еўра | 11 820,00 | **11 840,00** |
| Злоты | 2 805,36 | **2 818,86** |
| Літ | 3 424,46 | **3 428,20** |
| Расійскі рубель | 270,00 | **269,00** |
| Грыўня | 1 095,52 | **1 099,81** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8870/8920 | **8910/8960** |
| Еўра | 11800/11880 | **11820/11900** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 7.08 | 14.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 128200 | **116800** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45000 | **46200** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 84000 | **84000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 25900 | **26300** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 24000 | **24000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28000 | **28000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9950 | **9900** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 10100 | **10100** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 9000 | **9000** |
| **Алей** | 15900 | **15700** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **5200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9800 | **9800** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 8000 | **8000** |
| **Капуста**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Морква**, 1 кг | 7000 | **6000** |
| **Буракі**, 1 кг | 6500 | **6500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14500 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 19000 | **23000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 7500 | **7500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 5500 | **5000** |
| **Перац**, 1 кг | 10000 | **8000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 21000 | **17000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12000 | **12500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10000 | **8000** |
| **Грушы**, 1 кг | 22000 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 5000 | **5000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Пасля штрафу і арышту зноў сеў п'яным за руль

**МАЛАДЗЕЧНА. У сваe 35 гадоў маладзечанец атрымаў 11-ю судзімасць. Чацвёрты раз запар – за кіраванне ў нецвярозым стане.**

Да гэтага тры разы суд прыгаворваў яго да штрафу ў 20 мільёнаў рублёў. Апошні раз адным штрафам не абышлося: мужчыну далі паўтара года пазбаўлення волі.

20 красавіка каля гадзіны ночы ён нецвярозым ехаў па вуліцы Касманаўтаў на "Аўдзі 100". Яго затрымалі.

На судзе ён цалкам прызнаў сваю віну.

Суд прыгаварыў мужчыну да 1 года і 4 месяцаў зняволення, а таксама пазбавіў права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартам на пяць гадоў.

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК,**
**выконваючая абавязкі памочніка пракурора Маладзечанскага раёна.**



Фота radikal.ru

Атрымаў 11-ю судзімасць, бо ў чарговы раз сеў п'яным за руль.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Абліўся бензінам і падпаліў сябе

**АСТРАВЕЦ. Спроба самазабойства адбылася ў Астраўцы 10 чэрвеня каля 18.30.**

Выратавальнікаў выклікаў сусед, які заўважыў, што з кватэры побач ідзе дым. Калі прыехалі выратавальнікі, 33-гадовага мужчыну ўжо патушылі. Хто і як, пакуль высвятляецца.

У пацярпелага апёкі 40 працэнтаў цела. Ён знаходзіцца ў цяжкім стане ў рэанімацыі Астравецкай цэнтральнай раённай бальніцы.

Мужчына нідзе не працуе і, па словах суседзяў, злоўжывае алкаголем разам з бацькам і братам. Дарэчы, жывуць яны ўтрох у адной кватэры, дзе і адбылося здарэнне.

Пра выпадак расказаў інспектар групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць**.

**Настасся РОЎДА.**

## Агрэгат кацельні тушыў трактарыст

**АСТРАВЕЦ. Пажар адбыўся 9 чэрвеня каля 19.30.**

Калі пачалося ўзгаранне, трактарыст якраз быў побач. Ён схапіў вогнетушыцель і, пакуль не прыехалі выратавальнікі, сам тушыў пажар.

Агонь знішчыў электраабсталяванне, рамяні і электрапрыборы.

Ад пажару ніхто не пацярпеў.

Пра здарэнне расказаў інспектар групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць**.

**Настасся РОЎДА.**

РАУС ПАПЯРЭДЖВАЕ

## Дзеці гінуць, калі застаюцца адны

**МАЛАДЗЕЧНА. У ліпені выхаванец аднаго з мінскіх інтэрнатаў адпачываў у летніку на Маладзечаншчыне. Ён збег адтуль, і па дарозе ў Мінск яго збіла машына. Дзіця загінула.**

Летам усе заклікаюць вывозіць дзяцей з гарадоў, каб яны маглі не толькі палепшыць здароўе, але пабыць далей ад гарадскога жыцця з яго спакусамі. Аднак няшчасце можа напаткаць дзе заўгодна.

Дзеці гінуць на вадаёмах, дома, пад коламі машын... Гэта адбываецца заўсёды, калі яны застаюцца адны. Па аператыўных дадзеных МНС і МУС, у краіне ад пачатку года патанулі 24 дзіцяці, загінулі ў пажары 16, а ў аварыях – 10. Пацярпелі ад аварый 218.

І да 70 працэнтаў такіх здарэнняў адбываюцца з-за недагляду дарослых.

Кожнаму з бацькоў трэба разумець, што дзеці капіруюць іх паводзіны, у тым ліку і небяспечныя. З імі трэба размаўляць, тлумачыць, што можна, а што не. Нельга быць ініцыятарамі няправільных учынкаў. Часам можна назіраць карціну, калі дарослыя перабягаюць дарогу там, дзе нельга, ды перад самай машынай. І ў дадатак цягнуць за сабой малечу.

У Радашкавічах дзіця з дома-інтэрната патанула падчас адпачынку. Дзеці самі сабраліся і пайшлі купацца. Але ж педагогі ведаюць, куды цягне дзяцей, а значыць, трэба сачыць за імі.

МУС ладзіць розныя мерапрыемствы, каб папярэдзіць такія трагедыі. Аднак нішто не заменіць бацькоўскі кантроль.

**Сяргей ШЫТЫКА,**
**начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС.**

КРЫМІНАЛ

## Абакралі новую краму

**МАЛАДЗЕЧНА. Крадзеж здарыўся 10 чэрвеня ў новай маладзечанскай краме.**

Прадавец а 20 гадзіне зачыняла краму і раптам убачыла, што на касе не хапае жавальных гумак. Пачала аглядаць іншыя тавары і заўважыла, што зніклі кілбасы, печыва, прыправы.

Жанчына праверыла запіс на камеры відэаназірання і ўбачыла, што каля 12.30 у краму зайшлі мужчына з жанчынай. Яны доўга хадзілі, нешта выбіралі, нічога не купілі, затое скралі некаторыя прадукты.

Якога ўзросту і як яны выглядалі сказаць цяжка, бо ў гэты дзень была навальніца і камера дрэнна здымала.

Пра здарэнне расказала старшы следчы Маладзечанскага следчага камітэта па асабліва важных справах **Марына Рагінская**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Знайшлі скрадзеную машыну

**МАЛАДЗЕЧНА. Крадзеж адбыўся ноччу з 6 на 7 чэрвеня на вуліцы Купальскай.**

– Мужчына прыехаў дамоў, загнаў машыну ў двор і пайшоў спаць, – кажа старшы следчы па асабліва важных справах **Марына Рагінская**. – Ключы і ўсе дакументы пакінуў у машыне.

Тым часам ноччу зламыснік адкрыў вароты, выцягнуў машыну з двара, каб не нарабіць шуму, а потым завёў яе і паехаў.

Мужчына адразу звярнуўся ў міліцыю.

Сёння раніцай машыну знайшлі ў Мінску. Хто гэты злодзей, пакуль невядома.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

МЯЖА

## У лесе знайшлі цыгарэты

**АШМЯНЫ. 11 чэрвеня мясцовы жыхар расказаў дзяжурнаму аддзела памежнай службы "Ашмяны", што, верагодна, на ўчастку пагранічнага паста "Будзёнаўка" нелегальна пераносяць тавары.**

Памежны нарад у дзесяці метрах ад беларуска-літоўскай мяжы ў лесе знайшоў 10 тысяч пачкаў цыгарэт.

Дарожка слядоў праз поле прывяла да вёскі Малынішкі на аўтадарогу Пагіры – Каменны Лог. Там затрымалі двух беларусаў з дакументамі, якія дазвалялі ім знаходзіцца ў памежнай зоне. Дачыненне гэтых людзей да цыгарэт не пацвердзілася.

Тых, хто мог бы быць звязаны са зладзействам, не знайшлі.

Цыгарэты перадалі ў аддзел памежнай службы "Ашмяны" для далейшай перадачы супрацоўнікам Ашмянскай таможні.

**Аляксандр КОЛАБАЎ,**
**памочнік начальніка Смаргонскай памежнай групы па працы са сродкамі масавай інфармацыі.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Шукаюць сведкаў аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта шукае сведкаў і відавочцаў аварыі, якая адбылася ў Маладзечне 22 ліпеня каля 14.00.**

Аўтамабіль "Нісан Ноўт" (сіні хэтчбэк), які рухаўся па вуліцы Віленскай у бок вуліцы Чарняхоўскага, паблізу дома №201А збіў жанчыну. Тая пераходзіла дарогу справа налева па ходу руху транспарту. Жанчына атрымала цяжкія пашкоджанні.

Пераканаўча просім відавочцаў пазваніць па мабільным тэлефоне **8-033-6693248** альбо на нумар **771089** (ад 09.00 да 18.00 па буднях) следчаму **Максіму Дзмітрыевічу Буткевічу**.

**Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта.**



ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Да ўвагі вадзіцеляў

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 9 да 18 чэрвеня ДАІ ладзіць прафілактычныя мерапрыемствы пад назвай "Матацykліст!" на дарогах Беларусі.**

Асаблівая ўвага ў гэтыя дні чакае вадзіцеляў двухколавага транспарту матацыклаў і мапедаў.

Ладзяцца мерапрыемствы для таго, каб кіроўцы не парушалі правілы дарожнага руху.

Таксама супрацоўнікі ДАІ будуць шукаць незарэгістраваныя і змененыя транспарт.

**Паводле інфармацыі ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

ПРАФЕСІІ

# “Не бойся лячыць”, – галоўнае для доктара

**ВАЛОЖЫН. Ад першага жніўня ў бальніцы нашага рэгіёну прыйшлі маладыя дактары.**

Аб умовах працы, атмасферы ў калектыве мы вырашылі даведацца ў Валожынскай раённай бальніцы. Пра гэта нам распавёў педыятр **Павел Ганчар**.

**– Павел, чаму вы абралі менавіта прафесію доктара?**

– Напэўна, да дзясятага класа не задумваўся над сваёй будучай спецыяльнасцю. Пасля ж захацеў абраць прафесію, якая была б карысная для людзей.

На мой погляд, самая карысная спецыяльнасць – доктар. Яна дапамагае людзям, часам ратуе. Ды і ўвогуле, што можа быць больш важным за жыццё?

**– Чаму педыятр, а не іншая спецыяльнасць?**

– Ва ўніверсітэце, на другім курсе, супрацоўнічаў з “Чырвоным крыжам”, дзіцячымі арганізацыямі, дапамагаў дзіцячым дамам. Таму вызначыўся са спецыяльнасцю адразу.

Дзеці – гэта наша будучыня, а таму трэба клапаціцца пра іх жыццё.

**– Як трапілі ў Валожынскую цэнтральную раённую бальніцу?**

– Па размеркаванні мне прапанавалі некалькі месцаў: Астравец, Валожын і Смаргонь. Я выбраў Валожын.

Не паехаў у свой родны горад (Смаргонь), бо там многа сяброў, знаёмых. Мне здаецца, там бы мяне ацэньвалі б не як доктара, а як чалавека

**– Самі вы не мясцовы. Ці прадаставіла бальніца жыллё? Або здымаеце кватэру?**

– Жыву ў інтэрнаце, які дала бальніца. Умовы мяне цалкам задавальняюць.

Ды і бальніца, як з’яўляюцца сродкі, імкнецца палепшыць умовы.

**– З якімі цяжкасцямі сустрэліся, калі прыйшлі працаваць?**

– Не было цяжкасцяў, якія немагчыма было б вырашыць. Я аптыміст па жыцці, таму ў любой сітуацыі шукаю і добры бок.

**– Ці задавальняюць умовы працы?**

– У прынцыпе, усё задавальняе. Нядаўна налічылі заробак – прыемна здзівіўся.

Калектыў вельмі добры. Ніхто не адмаўляецца дапамагчы, даюць парады. Як і ў кожнага доктара, у мяне свой кабінет, што не можа не радаваць.

**– Якая парада найбольш запомнілася?**

– Не бойся лячыць. Гэтую параду дала мне загадчыца аддзялення. Калі ў медыка шмат боязі, хваляванняў, ён забываецца усё, што ведае.

Трэба заўсёды быць сабраным. Але ў той жа час, баяцца ў медыцыне – гэта нармальна. Вось і два бакі медалю.

**– А самі прытрымліваецеся здаровага ладу жыцця?**

– Імкнуся прытрымлівацца, на жаль, не заўсёды атрымліваецца. Раніцай раблю зарадку, правільна харчуюся, ў адзін і той жа час стараюся класціся спаць.

**– Якім павінен быць добры доктар?**

– Мне падаецца, у першую чаргу — добрым псіхолагам, каб мець падыход да кожнага з пацыентаў.

Паміж доктарам і пацыентам павінны быць даверальныя адносіны. Толькі ў гэтым выпадку можна вылечыць хваробу, знайсці яе корань. Ну і, канечне ж, кваліфікаваным спецыялістам.

**– Ці здаралася ў вашай практыцы такая сітуацыя, якая запомнілася на ўсё жыццё?**

– Была, у інтэрнатуры. Я тады назіраў за хлопчыкам, які захварэў на бранхіт. Пасля чарговага агляду ў яго раптам пачалі з’яўляцца сімптомы іншых, яшчэ не вызначаных намі хвароб.

У гэты час побач са мной ніякага іншага спецыяліста не знайшлося і прымаць рашэнне, як дапамагчы дзіцяці, прышлося самому. Тады хутка ўзяў сябе ў рукі, пачаў супакойваць дзіця, якое ўжо пачало плакаць, імкнуўся дапамагчы. І гэта мне ўдалося.

**– Як вы ставіцеся да самалячэння, нетрадыцыйнай медыцыны?**

– Адмоўна. Раздражняюць і праграмы па тэлебачанні медыцынскага характару. Дыягназ павінен вызначаць спецыяліст, пасля прызначаць лячэнне. Бываюць выпадкі, калі і хваробы няма. Людзі ж упэўніваюць сябе ў адваротным.

**– Вы ўдасканальваеце свае веды ці спыніліся на дасягнутым?**

– Калі ёсць вольны час, чытаю медыцынскую літаратуру. Дактары заўсёды ўдасканальваюць сябе, паўтараюць раней вывучанае. Часам кансультуюцца са сваімі калегамі, ад іх атрымліваюць веды ў іншай галіне медыцыны.

**– Якія парады вы можаце даць нашым чытачам у апошні месяц лета?**

– Канешне, весці здаровы лад жыцця, выпрацаваць для сябе рэжым дня. Есці больш садавіны і гародніны, бо тыя вітаміны з прадуктаў, якія атрымаеце зараз, будуць падтрымліваць здароўе восенню і зімой.

Параю менш хвалявацца, бо, як кажуць у народзе, усе хваробы ад нерваў. А ў выпадку чаго заўсёды звяртацца да спецыялістаў, яны дапамогуць.

**Галіна СІНІЦА.**



Фота забеспечана Паўлам ГАНЧАРОМ.

Павел Ганчар.

АДУКАЦЫЯ

# Ці быў конкурс сёлета ў медыцынскім каледжы?

**МАЛАДЗЕЧНА. 8 жніўня ў медыцынскім каледжы скончыўся прыём дакументаў на бюджэтную форму навучання. Аб гэтым паведаміў адказны сакратар прыёмнай камісіі Наталля Трубачова.**

На спецыяльнасць лячэбная справа прахадны бал быў 8,5, на сястрынскую справу – 8,1. Набор ажыццяўляўся па конкурсе атэстатаў.

У мінулым годзе абітурыенты прадстаўлялі атэстаты і два тэсты (па мове і па біялогіі). Прахадны бал па лячэбнай справе быў 142 балы, па сястрынскай – 120 для гарадскіх дзяцей і 112 для сельскіх.

У 2011 годзе абітурыенты павінны былі прадставіць толькі атэстат. Тады прахадны бал быў на лячэбную справу 8,2 балы, на сястрынскую – 7,8.

У гэтым годзе самыя высокія рэзультаты паказалі абітурыенты з баламі 9,5 на лячэбную справу і 8,9 – на сястрынскую.

| Спецыяльнасць | Прахадныя балы | | |
|---|---|---|---|
| | 2013 | 2012 | 2011 |
| Лячэбная справа | 8,5 | 142 | 8,2 |
| Сястрынская справа | 8,1 | 120 (горад) 112 (вёска) | 7,8 |

**Якім быў конкурс у гэтым годзе?**

У мінулых гадах конкурсу не было. Паступілі ўсе, хто падаў дакументы. У гэтым годзе ён склаў 1,9 чалавека на месца на лячэбную справу, 2,2 чалавека - на сястрынскую.

**Што новага з’явілася ў прыёмнай кампаніі каледжа?**

Пачалі набіраць студэнтаў па мэтавых накіраваннях. Гэтага не было ў мінулых гадах. Запыт на размеркаванне давала Вілейская, Валожынская, Мядзельская і Дзяржынская цэнтральныя раённыя бальніцы. Па спецыяльнасці сястрынская справа набралі 12 чалавек, па лячэбнай справе – 10.

Па спецыяльнасці лячэбная справа кваліфікацыю студэнтаў пашырылі. Зараз у дыпломе ў іх будзе напісана: “Фельчар-акушэр. Памочнік доктара па амбулаторна-паліклінічнай дапамозе”.

### У медыцынскі каледж едуць з усіх абласцей

У гэтым годзе назіраўся вялікі прыток студэнтаў з Брэсцкай, Гомельскай, Магілёўскай абласцей.

Раней навучэнцы былі пераважна з Мінскай і Гродзенскай абласцей.

### Інтэрнат абяцаюць усім навучэнцам

У гэтым годзе інтэрнат дадуць усім студэнтам: і платнікам, і бюджэтнікам. Зараз у інтэрнаце капітальны рамонт зрабілі на двух паверхах, на астатніх замянілі сантэхніку, абнавілі кухні.

**Што зараз адбываецца з платнікамі?**

На пазабюджэтныя месцы можна падаваць дакументы да 14 жніўня.

На поўдзень 12 жніўня на платную форму падалі дакументы 17 чалавек на лячэбную справу і 21 – на сястрынскую. Усяго трэба набраць 20 чалавек на першую спецыяльнасць і 30 на другую.

**Галіна СІНІЦА.**

 



АСОБЫ

# Юры Герасімовіч: "Я не люблю мазню"

## Мастак і дэсантнік з Вільні зладзіў выставу ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале імя Сілівановіча краязнаўчага музея праходзіць выстава карцін Юрыя Герасімовіча. Жыве ён у Вільні, а карані – з Вілейшчыны.**

Асоба цікавая: ён не толькі мастак, але і дэсантнік, цяпер у Вільні кіруе аддзяленнем дэсантнікаў дабрачыннага фонду ветэранаў вайны у Афганістане.

У інтэрв'ю нашаму выданню Юры расказаў, як атрымалася спалучаць вайсковую службу з мастацтвам. Прыгадаў, як дзіцем на Вілейшчыне пасвіў кароў і спаборнічаў у збіранні баравікоў. З сумам распавёў, як знікла яго лепшая праца.

**– Дэсантнік і мастак – такое спалучэнне нетыповае...**

– Рэдкі выпадак. Але дэсантныя войскі – адны з самых рамантычных: столькі рамантыкі, прыгажосці і сілы волі.

Каб вы бачылі, як дэсантнікі на парашутах у небе ляцяць – бы дзьмухаўцы! Гэта прыгажосць душы, смеласць, гэта сапраўднае баявое брацтва.

**– Дык як жа так атрымалася, што мастацтва і ваенная служба ў вас перапляліся?**

– У дзяцінстве закончыў чатырохгадовую мастацкую школу ў Вільні, падлеткам трохі закінуў маляванне. У 1973 пайшоў у войска і застаўся на звыштэрміновую службу. Служыў у Каўнаскай сёмай гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіі.

Адначасова завочна вучыўся шэсць год у мастацкім універсітэце. Атрымаў спецыяльнасць "выкладчык малявання ў сярэдняй школе". У войску быў інструктарам палітаддзела па культурна-асветніцкай рабоце. Займаўся скульптурай, афармленнем памяшканняў, графікай, керамікай, жывапісам, у тым ліку манументальным. Ствараў музей баявой славы дывізіі: ад праекта і да акцэнтаў дэкаратыўных.

**– У войску не толькі выяўленчым мастацтвам займаліся?**

– Не. Усё рабіў, што належыць ваеннаму: і ў камандзіроўкі лятаў, і з парашутам скакаў.

**– Юры, што звязвае вас з Вілейшчынай?**

– Мае карані адсюль, бацькі нарадзілася ў Крывым Сяле. Я ўжо нарадзіўся ў Вільні, бо бацькі ў 1952 годзе пераехалі туды. Але ж я ў бабулі рос у Крывым Сял. І мая жонка Рая таксама з Вілейшчыны.

Тут на танцах і пазнаёміліся. Прыязджаў у адпачынак у ваеннай форме. Неяк збіраўся на танцы. Бабка параіла звярнуць ўвагу на адну дзяўчыну. Прыйшоў, а яе не ведаю. У хлопцаў спытаў, як выглядае. "Вось гэтая, з валасамі па пояс", – адказалі. Танцавалі.

Да Качанкоў праводзіў, знайшлі агульную тэму для размовы, завязалася сяброўства. Настолькі яна мне спадабалася, так перажываў, каб толькі адказвала на мае лісты з арміі. Амаль кожны дзень пісаў. І па сёння жонка захоўвае тыя лісты – 211 іх было. Там і вершамі напісана.

**– А дзіцячыя ўспаміны з Вілейшчыны якія засталіся?**

— Помніцца, як пасвіў кароў. Раніцай падымаўся, бабка торбачку з лустай хлеба дасць – і наперад. Прыгадваю табуны коней, як на выгане разам з пастухамі бульбу пяклі. Як у грыбы з дзецьмі хадзілі, спаборнічалі, хто больш баравікоў прынясе. Прынясеш, а бабуля рада: "Слухай, унучак, яшчэ схадзі".

Памятаю, як яйкі краў, каб цукерку ці сайку купіць. Год шэсць-сем было. Выходжу, у мяне поўная пазуха яек, а тут бабка ідзе. Венікам па мяккім месцы надавала – і ўсё, больш гэтага не было.

**– Самая дарагая для вас праца?**

– Для музея баявой славы дывізіі стварыў дзве вялікія дыярамы: адна – 45 квадратных метраў, другая – 28. Гэта "Штурм рэйхстага". Яна найбольш мне дарагая: столькі душы ў яе ўкладзена! Ездзіў у камандзіроўкі, глядзеў дыярамы Барадзінскай бітвы, "Узяцце Ізмаіла". Даводзілася шукаць дакументы ў архівах, у фільмах глядзець, як рэйхстаг выглядаў.

Дыярама атрымалася – такое адчуванне быццам знаходзішся ў баі. На жаль, калі выводзілі войскі з Каўнаса, пры транспарціроўцы дыяраму разламалі. Я плакаў: столькі працы, столькі сіл, эмоцый з ёй звязана.

**– Пасля вываду дывізіі вы засталіся ў Літве...**

Вырашылі застацца, бо адслужыў 20 год, надыходзіў час выходзіць на пенсію. Пераехалі жыць ў Вільню. Нічым ушчымлены я не быў, літоўскай мовай валодаю.

Проста сама абстаноўка была цяжкая. Сябры ўсе паехалі, потым вярталі, гінулі: пасля першай чачэнскай вайны ад майго палка засталося працэнтаў 20. Калі трохі супакоіўся пасля гэтага перыяду, стаў часцей ездзіць у Беларусь да сваякоў.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Юры Герасімовіч у Вілейцы.

**– І як вам тут?**

— Магу сумленна сказаць: калі перасякаеш мяжу з Беларуссю, то і паветра змяняецца. Тут адусюль павявае цяплом і дабрынёй. Тут усё натуральнае, няма сінтэтыкі – я яе не люблю. У вёсцы ўсё па-іншаму адчуваеш. Праўда, цяпер дачнікаў шмат, ужо не тое.

Бывае, пытаюцца: "Як там у вас у Літве?" Ну як? Як у Еўропе, і што там асаблівага? А самае каштоўнае, калі прыязджаеш у вёску і бачыш гэта спрадвечнае. Трэба гэта берагчы, няхай нават у карцінах. Каб прыйшлі дзеці, паглядзелі, вось гэта было такое.

Я на адной карціне напісаў качанкоўскі лес. Людзі пазнаюць: "Вось сюды ў грыбы хаджу". Таксама пішу абразы. Два абразы знаходзяцца ў Касуцкай царкве. Напісаў іх па блаславенні айца Яфрэма са Свята-Духава манастыра ў Вільні. Часта прывозіў яго дадому, ён падказваў. Абразы асвяцілі, прынёс у дар царкве. Тут мае продкі вянчаліся і хрысціліся: не мог упусціць выпадак зрабіць штосьці добрае для сваёй царквы. Побач каплічка старадаўняя стаіць, для яе рыхтую абраз Іаана Хрысціцеля.

**– Як з'явілася ідэя зладзіць выставу ў Вілейцы?**

– Вырашыў, чаму б і не выставіць свае працы на роднай зямлі? Ёсць некалькі твораў, якія напісаў тут: Касуцкая царква, вясковыя пейзажы... Бывае, задумаеш: Вілейка і Вільня, карані абодвух слоў – "Віл", а рака наша Вілія ці Нярыс – злучнае звяно.

**– Якія карціны на выставе выстаўлены?**

– Нацюрморты, пейзажы: і гарадскі – Вільні, і наш вясковы – з Качанкоў, Крывога Сяла.

**— Ваша мэта як мастака ...**

– Разумееце, хачу ўзнавіць тое, што ў мяне страчана за пасляперабудовачны перыяд. Тады быў у пэўнай дэпрэсіі, рука не ўзнімалася маляваць. Думаў: "Ці не развучыўся ўжо?". Потым паспрабаваў, раз, другі – уцягнуўся. І цяпер хачу штосьці пакінуць пасля сябе.

**– Якія ёсць задумы?**

– Была задума такая глабальная. Ведаю, што ў Мінску будуецца музей Вялікай Айчыннай вайны. Вось бы скаапераваца з кім, стварыць групу, якая занялася б дыярамамі, бо досвед працы ёсць. Кожнаму наведніку было б цікава: дзесьці зямлянкі, дзесьці акопы зрабіць – у залежнасці ад тэматыкі. Але гэта проста мары.

**– А ў Вілейцы не прапаноўвалі штосьці такое?**

– Хачу больш цесна пакантактаваць з дырэктарам краязнаўчага музея **Сяргеем Ганчаром**. Можа, у перспектыве штосьці прыдумалі б. Таму што поле дзейнасці шырокае.

**– А ў бліжэйшых планах як мастака што створыць?**

– Адразу хачу паглядзець, як беларуская публіка прыме, ці спадабаюцца работы – усё ад іх успрымання залежыць. Бо калі не спадабаюцца, то што мне тут рабіць? Але, мяркую, спадабаюцца. У мяне стыль працы больш акадэмічны.

**– А ў Літве ці выстаўляецеся?**

– Раней выстаўляўся, а цяпер не. Там сучаснае бачанне ўсяго прыгожага ідзе ўразрэз з маімі ўяўленнямі. Я не люблю мазню.

Разумею, што ёсць розныя накірункі і стылі. Але можна тую самую працу зрабіць у класічным стылі, каб чалавеку было зразумела. Я разлічваю на людзей сярэдняга ўзросту. Каб чалавек прыйшоў, паглядзеў, каб ён перажываў з гэтай працай, каб нейкія думкі з'яўляліся.



Від з Качанкоў на Крывое сяло.

**– І на заканчэнне нашай размовы спытаю: "Чым жа ганарыцеся ў жыцці?"**

– Ёсць гонар за дзяцей. Што сталі дарослымі, нечага дасягаюць: Андрэй – у сваім накірунку, Ксенія – у сваім. Яна спявачка, у 2004 годзе прадстаўляла Літву на "Славянскім базары". Цяпер у Мінску жыве, працавала ў аркестры Фінберга. Дарэчы, нядаўна спявала ў Вілейцы на святкаванні Дня Незалежнасці.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



 

# *Іван Драўніцкі:* “Родная мова як паветра, як зямля, як маці”

**Сёння наш госць – вядомы краязнаўца і педагог з вёскі Камарова на Мядзельшчыне Іван Драўніцкі.**

Ён распавядае пра цікавыя вандроўкі і адметныя адкрыцці. Дзеліцца, як дзякуючы імкненню хутчэй даведацца пра прыгоды чарнакніжніка навучыўся чытаць. Прыгадвае, як уцякаў са школы. Раскрывае сакрэты таго, як збіраць паданні і зацікавіць дзяцей краязнаўствам.

**– Іван Пятровіч, што прыгадваецца з дзяцінства?**

– Як навучыўся чытаць: у пяць год чытаў бегла. Бацька займеў кнігу на польскай мове “Містар Твардоўскі, слаўны чарнакніжнік польскі. Займальная і вясёлая гісторыя, сабраная са старых хронік”. Такую моду завёў: пачытае старонку на ноч і адбой: “Ідзі спаць. Заўтра другую буду чытаць”.

А мне ж цікава, што ж там далей, дзе ж да заўтра чакаць. Адкрыю кніжку, а там значкі нейкія. Я да бабулі: “Як чытаць?”. Бабуля ўзялася: “Навучу, унучак”. Навучыла. Пакуль бацька закончыў, я сам гэту кнігу прачытаў.

У хаце было шматмоўе. Паколькі мусіў у школу польскую пайсці, бацька стараўся, каб ведаў польскую мову. Маці з вясковых, гаварыла толькі па-беларуску. Бабуля сама літоўка, хацела, каб ведаў літоўскую мову, казкі мне расказвала і песні спявала літоўскія. Перавага на вёсцы была ў беларускай мовы, потым і ў школе сталі на ёй выкладаць.

Забавы, гульні ўсялякія ўспамінаюцца. У нас была купка з 12 хлопцаў. Шмат працавалі з глінай, ляпілі самалёты, танкі, караблі, замкі, скульптуры розныя. Была ідэя зрабіць непатапляльны карабель. Высушвалі гліну, каб лягчэйшая была. Потым зрабілі карабель, дымаход, наклалі трэсачак. Пусцілі па рэчцы, ён некалькі хвілін плыў, але ўсё ж патануў.

Адзін хлопчык зрабіў з гліны вялікі глобус — як падняць. Гарады і людзей, дрэвы выляпіў – уся вёска глядзела.

Прыгадваецца сустрэча з першай настаўніцай **Янінай Аніцэтаўнай**. У першы дзень у школе з мяне пасмяяліся старэйшыя вучні: торбачку са сшыткамі, алоўкам і лустай хлеба са скваркай заперлі ў печы. Я ўцёк са школы, хацеў зусім яе кінуць. Настаўніца стала мяне шкадаваць, абняла. Была наогул вельмі добрая, стала як другая мама.

Запомнілася і іншае. Як у 1940 годзе яе звезлі ў Сібір. Прыйшлі супрацоўнікі НКУС, проста з урока забралі – усе дзеці плакалі. Сынок настаўніцы Багдан вучыўся ў маім класе – яго таксама забралі, і усю сям'ю вывезлі. У Сібіры яна працавала на шахтах. Пасля некалькіх гадоў катаргі паехала ў Польшчу.

**– Чаму абралі прафесію настаўніка?**

– Пэўна, адыграла ролю тое, што марыў быць падобным на першую настаўніцу Яніну Аніцэтаўну.

Таксама без бацькавага ўплыву не абышлося: ён сам быў пісьменны, нават вершы і паэму напісаў. Казаў, што трэба вучыцца, шукаць разумовую працу, хаця сам кавалём быў. Ды і самому ў калгасе не хацелася заставацца, хацелася ў свет выйсці.

**– Пасля завяршэння Камайскай школы вы вучыліся ў Пастаўскім педвучылішчы, у якім пасля вайны дзейнічала патрыятычная беларуская арганізацыя моладзі “Саюз беларускіх патрыётаў”…**

– Якраз калі мы прыйшлі, то гэта арганізацыя была ўжо разгромленая. Нам толькі расказвалі студэнты, што была такая арганізацыя, якая займалася вывучэннем беларускай мовы і культуры, працавала на павышэнне нацыянальнай свядомасці.

Сябрам арганізацыі закідвалі*, што яны думалі зброю трымаць у руках. Наколькі мне вядома, ніякай зброі ў іх не было. Многія закончылі вучылішча, працавалі настаўнікамі. Потым іх высачылі, арыштавалі.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Іван Драўніцкі на экскурсіі па Камарове.

**– Адкуль у вас такая цікавасць да гісторыі роднага краю?**

– Пэўна, пачалася яна тады, калі арганізаваў у Куцькаўскай школе гурток “Валошкі” – каб у летні час дзеці не блыталіся, распусту якую не рабілі. Малады быў, збіраў ахвотных, на роварах ездзілі па наваколлі, знаходзілі цікавыя мясціны.

Можа, падштурхнула і тое, што быў знаёмы з такімі людзьмі, як настаўнік і дырэктар Камайскай школы **Іосіф Быхавец**, які размаўляў па-беларуску і зацікаўліваў ведаць свой край, настаўнікам, пісьменнікам **Алесем Рылько**.

Потым былі сустрэчы з энцыклапедыстам **Якавам Якубоўскім**, **Адамам Мальдзісам**, **Міколам Улашчыкам**. Спатыкаліся не раз **з Міколам Ермаловічам**, у яго неаднойчы быў, з **Генадзем Каханоўскім** цэлымі паўднёўкамі сядзелі, гутарылі. Вось кантакты з такімі людзьмі і праца з вучнямі далучылі да краязнаўства.

**– А ў якія гады пачалі цікавіцца краязнаўствам?**

– Гэта з 1958 года, калі стаў дырэктарам Куцькаўскай школы. З'явіліся і магчымасць, і ўлада пэўная. Аўтобусаў тады не было, але лёгка была дастаць грузавую машыну. Накладвалі саломы, накрывалі тэнтам – маглі ехаць у Ленінград, Вільню, Кіеў, Рыгу. Потым забаранілі на машынах ездзіць, трэба было толькі на аўтобусах. Таму пачалі на роварах вандраваць.

За ўсё сваё жыццё ў радыусе 20-25 кіламетраў ад Камарова ўсе населеныя пункты і цікавыя мясціны ўдалося наведаць, і па некалькі разоў. Адразу як у разведку ехалі. Потым знаходзілі цікавых асоб. Выбіраліся ўжо мэтанакіравана, бралі фотаапарат, магнітафон, запісы рабілі. Пазней з'ўяляліся публікацыі ў раённых газетах.

**– Якая з гэтых вандровак з дзецьмі найбольш запомнілася?**

– Цікавая была на хутар Глушыца. Адметны ён тым, што там усяго было пяць хат, і з кожнай выйшаў знакаміты чалавек: пісьменнік, навукоўца, атамшчык, мастак, разьбяр.

І гэта мяне дзівіла: што такі маленькі засценачак, а такія адукаваныя людзі з яго выйшлі.

**– У гэтых вандроўках запісвалі паданні…**

– Паданні мы збіралі во як. Прыходзілі да старой бабулькі. Пытаем: “Як жывяце, як даўней жылося, як што”. Яна расказвае пра працу, маладосць. Далей: “Як палі называецца, як лясы. А вось пра гэта балота, ці пра крынічку раскажыце – як там што было?” Яна і расказвае.

Называлі па рознаму: паданні ці расказы або зданні (бо здавалася). Дзеці вельмі любяць паданні збіраць – яны такія казачныя.

**– Якія асноўныя**

## З біяграфіі

Іван Драўніцкі нарадзіўся 6 мая 1932 года ў вёсцы Гвоздавічы Камайскай гміны Свянцянскага павета (цяпер Пастаўскі раён). Закончыў Камайскую сямігодку (у 1948-м годзе), Пастаўскае педвучылішча (у 1952-м), завочна факультэт беларускай і рускай мовы і літаратуры Мінскага педінстытута (у 1960-м).

Працаваў настаўнікам беларускай і нямецкай мовы Клюшчанскай школы (1952–1953), дырэктарам Маласырмежскай(1953–1954), Вялікаставпяняцкай 1957–1958) і Куцькаўскай школ (1958–1993).

**тэмы паданняў?**

– Адносіны між людзьмі. Найбольш пра каханне, узаемаадносіны, сяброўства. Ёсць звязаныя з багамі дахрысціянскімі.

**– Шмат паданняў запісалі ад людзей. Якое найцікавейшае?**

– Вылучыць цяжка: кожнае па-свойму арыгінальнае. Але ўсе яны дыдактычныя, носяць выхаваўчы падтэкст. Заснаваныя на падзеях са звычайнага жыцця. Потым, вядома, нешта прыфантазіравалі.

Адно паданне пра мошчы ў Засвірскім касцёле мае нават тры варыянты. Людзей інтрыгавала: ляжыць, не гніе труп, кожны дзе што ўчуў, тое і расказвае.

**– Якія расказчыкі запомніліся асабліва?**

– **Броня** такая на Балдуку жыла. Гусей гадавала, коз.

Прыйдзеш – яна ў звычайным адзенні, цёмным. "Дзеткі, пачакайце", – кажа. Пойдзе да куфра, апране белы фартух, садзіцца, ручкамі разгладзіць і пайшла расказваць. І раскажа, дзе трэба, і спяе.

**– Якія самыя каштоўныя для вас адкрыцці ?**

– Тое, што ўдалося вызначыць, што вядомы кампазітар **Дзмітры Шастаковіч** – выхадзец з нашага краю. Лічу, удалая і патрэбная праца.

Яшчэ адкрыццё асобы паўстанца **Фларыяна Даноўскага**. Наштурхнула мяне суседка, расказала пра помнік на могілках у Каралінове на Пастаўшчыне. Пайшоў перш адзін і потым стаў дзяцей вадзіць. Неўзабаве публікацыі пачалі пра яго з'яўляцца.

Мастак **Альфрэд Ромэр**. Прачытаў пра яго артыкул кароткі, называлі яго літоўскім, польскім мастаком. Аказваецца, самы што ні на ёсць беларускі. Амаль увесь час ён жыў у Каралінове, і яго творчы патэнцыял тут раскрыўся. У Камайскім касцёле засталася яго карціна "Збаўца з хлопчыкам". Нешта такое, не горшае як "З'яўленне Хрыста народу" Іванова.

Я гэту карціну бачыў з шасцігадовага ўзросту, але ж доўга не ведаў, хто аўтар. Высветлілася ўсё дзякуючы мастаку **Алесю Цыркунову** і ксяндзу **Яцаку Хутману**. Яны залезлі, знялі карціну і на падрамніку ўбачылі подпіс Ромэра. Пасля гэтага сталі асобу мастака вывучаць, ў яго гонар і вуліцу, і вучылішча ў Паставах назвалі, і сёлета пленэр адбыўся. Мастак сусветнага значэння.

Цікавая асоба – арганіст **Бронэк Руткоўскі.** Ён нарадзіўся ў Камаях на Пастаўшчыне. Працаваў тут, потым з'ехаў у Кракаў.

Неяк з вучнямі з гуртка "Валошкі" адпачывалі ў Камайскай школе. Прыйшла жанчына, аказалася, што гэта яе пляменнік. Перадала з трыццаць фотаздымкаў, лісты, якія ён прысылаў. Стаў успамінаць: я ж яго бачыў! На Каляды ў 1939 годзе ён быў у строі апостала, раздаваў нам цукеркі. Пра Руткоўскага я кніжку выдаў.

**– Дарэчы, колькі ўсяго кніг выдалі?**

– Пяць, і адну ў сааўтарстве.

**– Вы ж амаль усё жыццё школамі кіравалі?**

– Так. Год адпрацаваў настаўнікам у Клюшчанскай сямігодцы. А потым быў дырэктарам школы ў Малой Сырмежы. Далей тры гады ў войску адслужыў, пару год папрацаваў у Вялікастаўпняцкай школе дырэктарам, а з 1958 года кіраваў Куцькаўскай школай – і аж да пенсіі.

**– Як лічыце, якія якасці характару неабходныя для дырэктара школы?**

– Справядлівасць, спакойны каб быў. У кожным настаўніку трэба знайсці добрую рысу. Калі той у нечым памыліўся, будзеш яго кляваць — пaverакананы, што сапсуеш чалавека.

Добрае неабходна падкрэсліваць, ацэньваць. Лепш за ўсё пахваліць, знаходзіць станоўчае, ну а потым сказаць: "А там нешта трэба падправіць". Бо калі адразу благога нагаворыш, то сапсуеш настрой, і ён рукі апусціць.

Старацца трэба не загадваць нешта рабіць. Настроіць так, каб ён быццам бы сам падышоў да выканання нейкай працы. А потым курыраваць, дапамагаць. Але калі заявіў, што зробіш, сказаў "гоп" – то трэба і скачок рабіць.

**– Як на краязнаўства часу хапала: дырэктарская праца ж не з лёгкіх?**

– Час заўсёды знойдзецца. Робіш нейкую работу і пра нешта думаеш, успамінаеш. Прыйшоў – запісаў. Гэта не толькі нейкая адміністрацыйная праца была. Грошай на рамонт школы не хапала, то самому даводзілася і печку рамантаваць, і фарбаваць.

**– Зараз з дзецьмі ў роварныя вандроўкі ці выпраўляецеся?**

– Не. Гадоў пяць, як кінуў. Толькі ў пешаходныя, па суседніх вёсках.

**– У сучасных дзяцей ёсць цікавасць да краязнаўства ?**

– Ёсць. Яны любяць, каб з імі хадзіў: новая абстаноўка, новыя людзі. Самі яны па хатах хадзіць не будуць, а за мной зойдуць. Людзі спаткаюць, чаем пачастуюць, нешта раскажуць. Дзецям цікава, пытаюцца: "Куды яшчэ пойдзем?"

Ужо вынікі падводзіць ім цяжэй, загружаныя ўрокамі. Але стараюцца: калі бачылі, трэба расказаць і іншым. Сёлета ў гуртку 14 чалавек было. Нікога не прымушаў наведваць: хочаш – хадзі, не хочаш – не хадзі. Адразу і болей вучняў запісваецца, потым гляджу – камусьці не выходзіць. Значыць, яму і не трэба.

**– Вы – багаты бацька, аж пяцёра дзяцей маеце. А яшчэ восем унукаў, праўнучка. Цікавяцца яны краязнаўствам?**

– Я б не сказаў: па розных сцяжынках пайшлі. А вось жонка больш за мяне чытае гістарычнай літаратуры. Яна прачытае – і мне раскажа.

**– Дзецям, унукам ці расказваеце паданні?**

– А як жа. Калі з унукамі хаджу на Блакітныя азёры, распавядаю, якія існуюць паданні пра крынічку, ці пра возера якое. Зусім іншымі вочкамі глядзяць.

**— А замест казкі перад сном?**

– Таксама расказваю, а лепей песні праспяваю – беларускія, вядома. Мамі ны песні, тутэйшыя.

Мама, бабуля спявалі, а бацька на скрыпачцы граў – цэлы канцэрт ладзілі, так у хаце іншы раз весела было.

**– Краязнаўства і родная мова — яны непадзельныя адно ад аднаго?**

– Родная мова – як паветра, як зямля, як маці.

Сказаць, што любіў яе ці што – я нарадзіўся з ёй, вучыўся і проста жыву. Гэта не цікавасць — гэта маё, як хлеб, так і мова. Рускую мову вучыў, польскую, нямецкую, а гэта натуральная з'ява.

**– Колькі моў ведаеце?**

– Беларускую, рускую, польскую. Нямецкую са слоўнікам, літоўскую на прымітыўным узроўні. Недахоп, што не ведаю англійскую мову. Каб ведаў, меў бы шырэйшы кругагляд, у тым жа інтэрнэце мог бы больш чаго знайсці.

**– У архівах ці працавалі?**

– У Маладзечне, Мінску, Наваградку, Гродне, Вільні, Рызе, Беластоку, Ольштыне.

**– Якія звесткі там шукалі?**

– Розныя. У замежжы больш шукаю пра князёў Свірскіх. Настолькі гэта ўсё страчана, што мала што ўдалося знайсці.

Планую, калі пажыву, напісаць гісторыю Свіры. Свір — гэта не Мядзел. У Мядзеле яшчэ лес быў, а тут у 12 стагоддзі замак будавалі. Княства было, сталіцу Нальшчанскага княства ў Свір пераносілі. Багатая гісторыя, трэба больш актыўна з ёй знаёміць.

**– Якія яшчэ кнігі хочаце выдаць, даследаванні зрабіць?**

– Пра Свір яшчэ на другім, а то і на трэцім плане. Зараз ужо зроблены даведнік з Вільні ў Полацк. Аддаў у друк кнігу пра мастака Ромэра.

Пачаў пісаць "Не мядзведжы кут" – кніга пра першы год маёй працы ў Клюшчанах. Мяне пасылалі працаваць настаўнікам у самы глухі куток былога Свірскага раёна – 24 кіламетры ад райцэнтра, туды можна было даехаць толькі на коні і дарогі разбітыя былі. Год папрацаваў – разабраўся, што гэта не мядзведжы куток. Такое бойкае месца было: дзесяць асоб, якія маюць усебеларускае значэнне, адтуль выйшлі.

**– Свой радавод ці глыбока раскапалі?**

– Недалёка — пакаленне пятае. Далей цяжка знайсці.

**– Кім з продкаў ганарыцеся?**

– Прадзед быў герой турэцкай вайны, меў высокую ўзнагароду на стужцы.

**– Іван Пятровіч, які ж ваш след на зямлі?**

– Два сляды: сваіх дзяцей гадаваў і чужых вучыў. Лічу, удалося. Дзеці і тады, і цяпер паступаюць у ВНУ, знаходзяць добрую дарогу ў жыцці.

За вучняў школы сорамна яшчэ не было. Атрымалася зрабіць у жыцці такую работу. Не надта аплатная яна грашыма, не такая папулярная, але патрэбная: без выхаваных людзей няма краіны, нацыі. Трэба, каб дзеці былі патрыётамі, разумнымі і пісьменнымі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** *Закідваць (сябрам арганізацыі закідвалі, што яны думалі зброю трымаць у руках) – ставілі ў віну, абвінавачвалі.



Фота забяспечана Іванам ДРАЎНІЦКІМ.

**Здымак з дзяцінства – сям'я Драўніцкіх з маленькім Яськам, 1938 год.**



Фота забяспечана Іванам ДРАЎНІЦКІМ.

**Фота з шасцікласнікамі школы ў Малой Сырмежы.**



Фота забяспечана Іванам ДРАЎНІЦКІМ.

**З жонкай Каралінай.**

ПРАФЕСІЙНАЕ МАЙСТЭРСТВА

# Вілейскія выратавальнікі перамаглі ў абласных спаборніцтвах




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Момант спаборніцтваў.

**МЯДЗЕЛ. На выратавальнай станцыі "Мядзел" 9 жніўня адбыліся абласныя спаборніцтвы сярод прафесіяналаў ратавання. Падобныя спаборніцтвы на возеры Мястра праходзяць ужо шмат год запар.**

Удзельнічалі ў іх каманды з сямі выратавальных станцый Міншчыны, а таксама дванаццаць каманд дружыннікаў.

**– Як рыхтаваліся да спаборніцтваў?** – запытаў у начальніка Вілейскай выратавальнай станцыі **Аляксандра Роўды.**

– Мы павінны быць заўсёды гатовы: не толькі да спаборніцтваў, да любых умоваў і сітуацый.

**– На ваш погляд, ці патрэбныя падобныя конкурсы?**

– Патрэбныя. На іх павышаем наша майстэрства. Нават кантакты паміж калегамі – гэта таксама вельмі важна.

**– Ці ўдавалася перамагаць ў Мядзеле?**

– Без прызавых месцаў ніколі не вяртаемся.

Праграма спаборніцтваў складалася з плавання на адлегласць 100 метраў з пераадоленнем перашкод, буксіроўкі манекена ўплаў на 50 метраў, падачы выратавальнага круга, веславанні на выратавальнай лодцы (150 метраў). А для супрацоўнікаў выратавальных станцый да гэтых відаў дабавіўся выхад катэра па трывозе.

**Сярод каманд выратавальных станцый усе прызавыя месцы заваявалі прадстаўнікі нашага рэгіёна.**

Па выніках усіх відаў перамаглі супрацоўнікі Вілейскай выратавальнай станцыі, на другім месцы – каманда станцыі "Нарач", на трэцім – станцыі "Зубраня".

У асабістым заліку перамог **Дзмітры Логвінаў** (станцыя "Нарач"), паведаміў старшыня Мядзельскай раённай арганізацыі таварыства выратавання на водах **Дзмітры Мялешка**.

Паміж дружыннікаў лепшай была каманда Мядзельскай раённай арганізацыі таварыства выратавання на водах, адсюль жа пераможца ў асабістым заліку – **Андрэй Малько**.

Пераможцы атрымалі кубкі, граматы і каштоўныя прызы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## "Смаргонь"-" Іслач" – 0:0

**СМАРГОНЬ.** У перанесеным матчы 11-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе 10 жніўня футбольны клуб "Смаргонь" гуляў на выездзе з "Іслаччу" (Мінскі раён). Гульня завяршылася нічыёй 0:0.

Вось як у інтэрв'ю сайту fc-smorgon.by ацаніў гульню галоўны трэнер каманды **Павел Бацюта**:

– Самае галоўнае тое, што мы не здолелі забіць. Мы стваралі галявыя моманты, але з рэалізацыяй ёсць праблемы. Пасля матчу вельмі няпроста штосьці казаць, таму што трэба паглядзець відэа і прааналізаваць кожны момант. Ад сябе магу дадаць, што калі б мы забілі гол, то, мяркую, ён быў бы не апошні ў гэтай гульні.

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" не ўзяў кубак

**МАЛАДЗЕЧНА.** 7 жніўня на гарадскім стадыёне ў Маладзечне адбыўся фінальны матч Кубка Мінскай вобласці па футболе. Каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" сустракалася з "Лівадыяй-Юні" (Дзяржынскі раён).

Маладзечанцы прайгралі гасцям з лікам 2:4. Кубак Мінскай вобласці заваявала "Лівадыя-Юні".

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" у адным ачку ад лідара

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА.** У 14 туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 11 жніўня сустракаліся "Маладзечна-ДЮСШ-4" і "Вілія" з Вілейкі.Маладзечанцы дома перамаглі з лікам 4:0. А іх супернік у барацьбе за першае месца "Жодзіна-2007" згуляў унічыю з ФК "Узда" 2:2. Такім чынам, каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" ушчыльную наблізілася да лідара: адстае на адно ачко.

Клуб "Смалявічы" з-за арганізацыйных праблем зняўся з чэмпіянату. Вынікі матчаў з яго ўдзелам ануляваныя, паведамляе сайт федэрацыі футбола Мінскай вобласці. Згодна з календаром якраз са "Смалявічамі" 10 жніўня павінна была гуляць "Забудова-2007".

## "Першы Беларускі" ў лідарах

**ВІЛЕЙКА.** 10 жніўня адбыліся гульні сёмага тура чэмпіянату раёна па футболе. Каманда "Шылавічы" выйграла ў "Стралы" 7:3, "Буддэталі" абыгралі прадстаўнікоў СВК "Чурлёны" 3:0, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футболу **Ігар Шабан**.

Цэнтральным матчам тура была сустрэча лідараў чэмпіянату – каманд "Фламетр" і "Першы Беларускі". "Фламетр" саступіў з лікам 1:3. Каманда "Першы Беларускі" стала аднаасобным лідарам чэмпіянату: на яе рахунку 15 ачкоў.

## Вызначылі лепшых валейбалістаў

**МЯДЗЕЛ.** На пляцоўцы на гарадскім пляжы 10 жніўня прайшлі гульні на Кубак раёна па пляжным валейболе. У спаборніцтвах прынялі ўдзел 17 каманд.

Больш за ўсё іх было ва ўзроставай групе да 40 год. Тут перамаглі **Андрэй Русак** і **Юры Шукела**. Ва ўзроставай групе 40-49 год мацнейшымі былі **Валеры Юрманаў** і **Леанід Шыдлоўскі**, больш за 50 год – **Аляксандр Жыхар** і **Часлаў Вярбіцкі**. Усе тры каманды-пераможцы прадстаўлялі аддзел адукацыі, спорту і турызму.

**Аддзел інфармацыі.**

МІНІ-ФУТБОЛ

## "Пуцеец" стаў лепшым

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёмы турнір па міні-футболе сёлета сабраў на пляцоўцы 13 каманд.**

Традыцыйныя спаборніцтвы, прысвечаныя памяці воіна-інтэрнацыяналіста **Мікалая Палухі**, праходзілі на гарадскім стадыёне цягам ліпеня.

Некалькі этапаў турніра вызначылі пераможцаў. Першымі сталі спартсмены з каманды "Пуцеец", другое месца – за "Маладзечнамэбляй". Тройку лідараў замыкае каманда "Буддэталі" з Вілейкі. Пераможцы атрымалі кубкі, граматы, а таксама грашовыя ўзнагароды.

Падчас турніра вызначалі і самых лепшых спартсменаў па асабістых паказчыках. Сярод іх адзначыліся прадстаўнікі "Маладзечнамэблі". **Дзяніс Ціткоў** стаў лепшым бамбардзірам: на яго рахунку 11 галоў. Лепшым галкіперам стаў **Аляксандр Кезік**, лепшым асістэнтам – **Сяргей Лавар**, які аддаў дзевяць пасаў.

Вызначылі і лепшага вопытнага гульца – ім стаў **Аляксандр Залатухін**. Асобна адзначылі **Дзмітрыя Загорскага** за волю да перамогі.

**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРС

## Выйграй білет на дамашнюю матч "Смаргоні"!

**СМАРГОНЬ. Вітаем на старонках "Рэгіянальнай газеты" ўсіх аматараў смаргонскага (і не толькі) футбола!**

Як вы, напэўна, ведаеце, футбольны клуб "Смаргонь" даволі паспяхова гуляе ў чэмпіянаце Беларусі сярод каманд першай лігі. Акрамя таго, каманда займае пятае месца па сярэдняй наведвальнасці гульняў: 971 глядач у сярэднім прыходзіць падтрымаць каманду на стадыён "Юнацтва".

Для таго, каб наведванне гульняў чэмпіянату выклікала ў вас яшчэ большую зацікаўленасць, мы прапануем паўдзельнічаць у сумесным конкурсе "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь".

Усё, што вам трэба, – прадказаць лік наступнай гульні чэмпіянату "Смаргонь" – "Гарадзея" (адбудзецца яна ў суботу, 17 жніўня) і назваць каманду, якая заб'е першай.

Ваш адказ можаце даслаць да 12 гадзін 17 жніўня праз SMS на нумар 8(044) 566-26-99 ці пакінуць у каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або праз асабістыя паведамленні карыстальніку anrogach2009 на сайце fc-smorgon.by.

Абавязкова ўкажыце ваша імя і нумар мабільнага (на сайтах ён не будзе відаць. На rh.by пішыце яго ў графе "e-mail").

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні". Абавязковай умовай удзелу ў конкурсе з'яўляецца наведванне матчу з "Гарадзеяй": менавіта пасля гэтай гульні білет знойдзе вас!

Гэта, вядома, не ўсё! Такія конкурсы плануем праводзіць і надалей. А той, хто да канца чэмпіянату найчасцей будзе перамагаць у конкурсе, атрымае галоўны прыз – футбольны мяч! Запрашаем да ўдзелу!

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Ірыны ЛЕЙЧАНКІ.

Фота з матчу "Смаргонь-Граніт".

**Камент-эксперт** rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Пляцовак для сабак няма, а правілы ёсць

Дарэчы, у Маладзечне быццам бы ўжо не шэсць ЖРЭУ, а сем. А наконт пляцоўкі на Крынічнай - дзякуй, што там хоць траву косяць. Хоць зразумець, што гэта пляцоўка для выгулу сабак, вельмі складана - проста стаіць плот пасярод лесапарка. І ўсё. Хоць бы цэлы плот быў. І як там выгульваць сабак! Вынік просты – пляцовак для выгулу сабак у горадзе няма ні адной. Тое, што на Крынічнай – гэта не пляцоўка. Гэта мясцовая "паляна". А падатак за сабаку бяруць спраўна! Чаму ў Празе, напрыклад, у месцах, дзе часта ходзяць з сабакамі, устаноўленыя стэнды з пакуначкамі і аднаразовым кардонным савочкам. А ў нас нават сметніцу не заўсёды знойдзеш. І што мне, насіць праз паўгорада потым гэты пакецік! А потым будуць казаць чыноўнікі, што на Захадзе крызіс як у культуры, так і ў эканоміцы. Плакаць хочацца ад такіх слоў, не ганьбілі б. Нам бы іх крызіс! ***Сабака.***

### Варварская высечка лесу недалёка ад мемарыяла "Боркі"

Мой знаёмы, праца якога звязаная з лесам, таксама расказваў пра варварскую высечку лесу, толькі ў Валожынскім раёне. Людзі з-за нажывы гатовыя знішчыць усё на свеце. ***Ева.***

Высякаюць лес нават у ахоўной зоне ля Вяллі і Нарчанкі. Ля Асінаўкі зараз нарыхтавалі вялікія штабелі, на жаль, не маю фота гэтага злачынства. ***Jzik.***

### Кіраўнік "Камунальніка": "Газета з акцыяй паспяшалася"

Ну, калі Камунальнік у нас не спяшаецца, хай хоць газета паспяшаецца.) Нехта ж павінен з мёртвага месца праблему рушыць. ***Маладзечанка.***

**ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЖАМ**

# "Бачу дом, але як пад'ехаць"?




Малюнак "РГ".

**Як пад'ехаць да некаторых дамоў, з першага разу не кожны кіроўца разбярэцца.**

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю "РГ" з пытаннем звярнуўся малады чалавек: чаму вуліца Віленская пачынаецца з плошчы Старое Места, а некаторыя дамы знаходзяцца недалёка ад завода парашковай металургіі?**

Мы вырашылі высветліць, ці ёсць яшчэ такія вуліцы ў Маладзечне.

Найперш мы звярнуліся да тых, хто ведае горад уздоўж і ўпоперак, а дакладней, да таксістаў.

### Навошта сціраюць гісторыю, змяняючы назвы вуліц?

Як нам расказалі, таксісты добра ведаюць Маладзечна і таму лёгка даязджаюць у любы пункт горада. Яны кажуць, што ідэальная нумарацыя ва Усходнім мікрараёне. Па адным баку ідуць цотныя дамы, а па другім – няцотныя. Таму ніякіх праблем не ўзнікае. У цэнтры горада блытаніна з тым, што дамы абазначаюцца не толькі лічбамі, але і літарамі. Напрыклад, 2А і 2Б.

Таксама ўзнікаюць праблемы пасля змянення назваў вуліц. Таксісты скардзяцца, што кліенты часта тэлефануюць у службу і выклікаюць машыну па старым адрасе, якога ўжо папросту не існуе. Тыя, хто працуе даўно, могуць хутка зарыентавацца, навічкі ж блытаюцца. А разам з імі і прыезджыя.

Некаторыя з таксістаў здзіўляюцца, чым дрэнныя былі старыя назвы вуліц. Як яны лічаць, гісторыя горада захоўваецца і ў назвах вуліц, чаму тады яе сціраюць? Будуюцца новыя мікрараёны, вось там, на іх думку, і трэба даваць новыя назвы.

### Спачатку "В", усярэдзіне – "А", а пасля ўжо "Б"

Блытаніны дадаюць і некаторыя заезды да пэўных дамоў. Напрыклад, два дамы №40 на Францыска Скарыны і Багдана Хмяльніцкага знаходзяцца амаль побач. Але заезд на Скарыны – з Багдана Хмяльніцкага, на Хмяльніцкага – наадварот. Тыя, хто гэтага не ведае, могуць доўга блукаць у пошуках патрэбнага дома.

– Часам даводзіцца ездзіць на таксі, – кажа жыхарка аднаго з гэтых дамоў **Анастасія**. – І ўжо цягам сямі год даводзіцца нагадваць кожнаму другому кіроўцу, як да нас пад'ехаць. А калі ўзгадаць, што адбывалася адразу, як пабудавалі дом, то можна ўвогуле схапіцца за галаву! Тады шмат гасцей прыязджалі паглядзець нашу новую кватэру, дык кожнага даводзілася сустракаць, бо гадзінамі круціліся непадалёк і казалі: "Бачым ваш дом, а як пад'ехаць, не ведаем".

Сталыя жыхары дамоў па вуліцы Вялікі Гасцінец 72А, 74А, 74Б, 74В кажуць, што для іх гэта нумарацыя звыклая. Яна ўжо даўно існуе. "Хуткая" знаходзіць іх, а на таксі не ездзяць – дорага, ды і няма куды.

Узнікаюць цяжкасці, калі трэба трапіць у дамы № 74А, 74Б, 74В. Спачатку ідзе дом з літарай В, усярэдзіне — А, а ўжо пасля Б.

### Ці магчыма змяніць адрас для дома?

Намеснік маладзечанскага філіяла "Мінскага абласнога агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры" **Раман Жаўняровіч** патлумачыў, як змяняюць "прапіску" дома.

Гэта не так проста, як здаецца на першы погляд. Трэба змяніць рэгістрацыю, перарабіць дакументы на пабудову. Асаблівыя цяжкасці ўзнікаюць са шматкватэрнымі дамамі, бо неабходна згода ўсіх жыхароў дома.

Усе правілы змянення назвы прапісаныя ў "Пастанове дзяржаўнага камітэту па маёмасці Рэспублікі Беларусь" ад 15 жніўня 2012 года.

Адрас лічаць замацаваным, змененым, зніклым, калі яго ўнеслі у запіс рэестру адрасоў.

Гэтую працэдуру ажыццяўляюць супрацоўнікі арганізацый па дзяржаўнай рэгістрацыі.

### Аб чым сведчыць пастанова

Паводле "Пастановы дзяржаўнага камітэта", абгрунтаваннем для змены адраса з'яўляюцца:

– Перанумарацыя ці нармалізацыя адрасоў.

– Раздзел, зліццё элементаў дарожна-транспартнай сеткі.

– Змяняюцца адрасы і ў сувязі з раздзелам, зліццём пабудоў і з'яўленнем надбудоўкі.

Нармалізацыя адрасоў ажыццяўляецца пры звароце зацікаўленай асобы, пры рашэнні органа мясцовага кіравання і самакіравання, пры ўказанні Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь.

**Галіна СІНІЦА.**

**РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, баявік "**Расамаха: Бессмяротны**" 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, для гледачоў пасля 16 год)
16 жніўня – у 21.00
17-18 жніўня – у 18.30, 21.00
19-20 жніўня – у 21.00
21 жніўня – у 18.30, 21.00
22 жніўня – у 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Фантастычны экшн "**Ціхаакіянскі рубеж**" 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, да 12 год прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
16 жніўня – у 18.00
17-18 жніўня – у 15.30
19, 22 жніўня – у 18.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды **"Турба"** (ЗША, 2013)
16 жніўня – у 16.00
17-18 жніўня – у 13.30
20 жніўня – у 19.00
21 жніўня – у 16.30
22 жніўня – у 16.00
Кошт білета – 22 000-25 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды Гекльберы Фіна**" (Германія)
16 жніўня – у 17.30
17-18 жніўня – у 15.00, 17.00
20-22 жніўня – у 17.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Баявік "**Напралом**" (Францыя)
16-18 жніўня – у 19.30, 21.30
19 жніўня – у 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама, камедыя "**Каханне жыве тры гады**" (Францыя, Бельгія)
20-22 жніўня – у 19.30, 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**ГАРАСКОП (16-22 ЖНІЎНЯ)**

**Авен.** Перыяд выдатна падыходзіць для вырашэння практычна ўсіх пытанняў, у першую чаргу – грашовых.

**Цялец.** Нейкі дзень прынясе сустрэчу з кімсьці вельмі важным, хто паўплывае на вашы рашэнні адносна сям'і, дома.

**Блізняты.** Час спрыяльны для творчых пошукаў. Але будзьце ўважлівыя – ёсць рызыка аказацца пад уплывам чужых думак. Будзьце карэктныя ў адносінах да калег, бо ёсць верагоднасць таго, што можаце нажыць сярод іх ворагаў.

**Рак.** Абараняйце свае інтарэсы – толькі тады можна пазбегнуць страт. Змены ў асабістым жыцці не адбудуцца самі па сабе, прыкладзіце намаганні, каб усё змянілася да лепшага.

**Леў.** Перыяд неблагі, аднак вы чакалі значна большага. У гэтым прычына раздражнёнасці, дрэннага настрою, спрэчак. У сувязі з гэтым адкладзіце перамовы, не спяшайцеся ацэньваць прапановы, якія паступяць на гэтых днях.

**Дзева.** Не спяшайцеся прымаць рашэнні, выкарыстайце вольны час для свайго задавальнення. У асабістым жыцці вы не будзеце праяўляць ініцыятыву, таму складзецца сітуацыя, калі рашэнні будуць прымаць за вас.

**Шалі.** Выдатны перыяд, аднолькава добры як для новых спраў, так і для завяршэння старых. Вам шанцуе ва ўсім, карыстайцеся гэтым, каб дасягнуць поспеху.

**Скарпіён.** Вы прыцягнеце да сябе ўвагу супрацьлеглага полу, таму сумаваць не прыйдзецца. Прыглядзьцеся, магчыма, вы адшукаеце родную душу.

**Стралец.** Гэты перыяд спакойны і прыемны, ідэальна падыходзіць для аднаўлення сіл і падрыхтоўкі да новых спраў. Могуць паступіць прапановы змены работы. Не спяшайцеся даваць згоду.

**Казярог.** З'яўляецца магчымасць скарэктаваць планы на будучыню. Магчыма, блізкія будуць незадаволеныя вашымі рашэннямі, але да канфліктаў справа не дойдзе.

**Вадалей.** Разлічваць на лёгкія поспехі не трэба, але якіх-ніякіх вынікаў можна дасягнуць.

**Рыбы.** Перыяд будзе звязаны з вялікай колькасцю хваляванняў і клопатаў. Аднак адносіны паміж сваякамі, каханым будуць вельмі добрыя, вас будуць падтрымліваць, заспакойваць. Гэта дасць новыя сілы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 +20 | | +12 +22 | | +15 +23 | | +17 +22 | |
| | 746 | ↘ 2 | 745 | ↘ 2 | 743 | ↑ 5 | 741 | ↑ 4 |
| Вільня | +11 +20 | | +12 +23 | | +15 +24 | | +18 +20 | |
| | 755 | → 1 | 752 | ↖ 4 | 750 | ↑ 6 | 749 | ↑ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.54
Захад 20.41
Даўжыня дня 14.47

Усход 17.54
Захад 1.16
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- У дзень Антона-віхравея (16 жніўня) чакалі моцных вятроў, якія абяцаюць снежную зіму. "Якія Антоны – такі і кастрычнік".
- Хто ў жніўні гуляе, той зімой галадае.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Якія тыповыя памылкі робяць беларусы ў доглядзе за сваімі зубамі? Як з дзяцінства выхоўваць правільнае стаўленне да стаматалогіі? Парады стаматалага Вольгі Унучак чытайце ў наступным нумары.**

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* У Шанхаі незаконна мець аўтамабіль чырвонага колеру.

* 19% сонечнай энергіі паглынае атмасферай, 47% падае на Зямлю, а 34% – вяртаецца ў космас.

* У ЗША няма афіцыйнай мовы. Англійская мае такі статус толькі ў некалькіх штатах.

* Бананы – гэта ягады.

* Малако бегемота ружовага колеру.

* Кава – другі буйнейшы тавар у міжнародным гандлі пасля бензіну.

* На кожнага чалавека на Зямлі – два мільёны насякомых.

* Каштоўныя камяні аметыст і апал маюць такую ж хімічную формулу, як і рачны пясок. А рубін мае формулу белай гліны.







## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Чым можа падабацца мыццё ў лазні?



**Аляксандр Жукавец, студэнт:**

– Мыюся ў душы, ванне. У лазню можа калі-небудзь схаджу, як герой фільма "Іронія лёсу, або З лёгкім парам".



**Алена Самаль, апрацоўшчыца калбасных вырабаў:**

– Мыццё можа падабацца веннікам, добрым парам. Пры гэтым лепш ачышчаецца цела, супакойваецца арганізм. Зараз часцей мыюся ў душы, ванне. Раней хадзіла ў лазню.



**Наталля Бучанкова, працоўная:**

– Не магу сказаць, чым лазня можа падабацца. Мыюся ў душы і ванне.



**Аляксей Ярчак, слесар:**

– Мыюся ў ванне, душы. Калі гаварыць пра лазню, то больш падабаецца сауна. У ёй можна рэгуляваць тэмпературу. Вялікія тэмпературы не ўсім падабаюцца і не кожнаму карысныя. У большасці саун ёсць більярд. Можна проста адпачыць і душой, і целам.



**Іван Раманоўскі, пенсіянер:**

– Лазня ачышчае поры, дае бадзёрасць. Шкада, што даўно не мыўся ў ёй. Здароўе не дазваляе гэтага зрабіць.



**Сяргей Галаўчэнка, слесар:**

– Мыюся ў ванне. Не ведаю, чым лазня падабаецца людзям.



**Аляксей Наліцкі, міліцыянер:**

– Сам мыюся ў лазні. Падабаецца парам, духмяным венікам. Пры гэтым лепш адкрываюцца поры, ачышчаецца арганізм.

**Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 33 (955) 16.08.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 702. Падпісана ў друк у 10.00 15.08.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.